# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

10 мая 2019 года №19 (1254) 18+


# Віншуем з Днём Перамогі!

У рэгіёне засталося **150** ветэранаў Другой сусветнай

Сярод іх **100** удзельнікаў баявых дзеянняў

Извещение и письма о смерти моих сыновей, погибших на фронтах Великой Отечественной Войны. 1941–45 гг.

Извещение

Ваш сын красноармеец Манцевич Всеволод Иосифович уроженец г. Витебска в бою за Социалистическую Родину, верный воинской присяге, проявив геройство и мужество, погиб 23 марта 1943 года

Здраствуй дорогия родители мои. Поведомляю я вам што я жива здорова. Посылаю я вам свой сердечны прывет Тату Маме Тато Володзю Дзеду Бабе дядзьку Пётру его жоне Сони и жени.

Дорогой тов. Манцевич. Настоящим сообщаю что Ваш сын погиб смертью храбрых в борьбе с немецкими фашистами


Пісьмы з вайны: старонкі 18–19


## Пяць фактаў пра Налібоцкую пушчу


старонка 21


## Навошта абразаць дрэвы ў гарадах?


старонка 2


## Чаму вушы трашчаць?


старонка 5





ISSN 1991–7155

9 771991 715006 190019


Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/

## У Вілейцы адключаць гарачую ваду

ВІЛЕЙКА

Пра гэта паведамілі ў Вілейскай ЖКГ.

Вады не будзе два тыдні – да 26 мая. Як распавялі ў ЖКГ, у гэты час правядуць гідраўлічныя выпрабаванні цеплавых сетак.

**Аддзел інфармацыі.**

## На Радаўніцу пусцяць дадатковыя аўтобусы

СМАРГОНЬ

7 мая, на Радаўніцу, аўтамабільны парк №17 будзе ажыццяўляць дадатковыя рэйсы па маршруце вакзал – мікраёан Усходні – гарадскія могілкі (вул. Камінскага).

Маршрутнае таксі будзе ехаць з усімі гарадскімі прыпынкамі. Кошт праезду – 65 кап.

Адпраўленне ад прыпынку «Чыгуначны вакзал» у 09:50, 10:40, 11:30, 12:25, 13:25, 14:15, 15:05, 15:55.

Адпраўленне ад прыпынку «Гарадскія могілкі» у 10:15, 11:05, 11:55, 13:00, 13:50, 14:40, 15:30, 16:20.

**Паводле shliah.by.**

## Атрымалі званне «Лепшы па прафесіі»

МАЛАДЗЕЧНА

Днямі на Беларускай чыгунцы вызначылі лідараў у галіновых спаборніцтвах за 2018 год. Тут перамагла станцыя Маладзечна.

А лепшымі па прафесіі сталі работнікі станцыі-пераможцы. Гэта манеўровы дыспетчар **Аляксандр Дуйноў**, майстар цягніка **Раман Спець** і электрамеханік **Алег Загрэбін**.

**Паводле Мінаблвыканкама.**

## Пенсіянерам даюць зніжку на праезд у прыгарадных электрычках

Ад 1 мая пенсіянеры атрымалі 50-працэнтную зніжку на праезд у прыгарадных электрычках і дызель-цягніках эканомкласа. Льготны тарыф уводзяць штогод на перыяд сельскагаспадарчых прац – ад 1 мая да 30 верасня. Такая норма прадугледжаная ўказам «Аб дзяржаўнай падтрымцы пенсіянераў».

Ільготы не распаўсюджваюцца на праезд у цягніках рэгіянальных ліній бізнес-класа (з нумараванымі месцамі), а таксама на цягнікі гарадскіх ліній.

Білеты са зніжкай прадаюць у касах пры падачы арыгіналу пенсійнага пасведчання. Гэты дакумент трэба мець пры сабе і падчас паездкі.

Ільготныя білеты можна аформіць таксама ў тэрміналах самаабслугоўвання.

**Паводле прэс-службы Беларускай чыгункі.**

## Зладзілі свята, каб сабраць грошы вілейскім дзецям

ВІЛЕЙКА

Першага мая ў Мінску правялі спартыўнае дабрачыннае свята для дзяцей і дарослых «БегаВелаКампот». Гэта спаборніцтвы па вела- і бегавеласпорту сярод дзяцей ад аднаго да сямі гадоў.

Арганізавалі свята БегавелаКлуб SportKids.by і партнёр фонд дапамогі дзецям «Белы Бусел».

У спаборніцтвах удзельнічала дзвесце дзяцей. Сярод іх – маленькія жыхары Вілейкі і Маладзечна.

Бегавел – гэта ровар, толькі без педаляў . Ён прызначаны для дзяцей ад аднаго года да пяці.

Мерапрыемства было дабрачынным. Сабраныя сродкі пойдуць на дапамогу падшэфным фонду дапамогі дзецям «Белы Бусел». Фонд дапамагае дзеткам, якія маюць у гэтым патрэбу. У тым ліку, дзецям з вілейскага інтэрната.

**Любоў СТРЫГА, фонд дзецям «Белы Бусел».**

## Пасол Ватыкана прыляцеў у Будслаў на верталёце

МЯДЗЕЛ

Урачыстасць адбылася ў мястэчку 1 мая.

Апостальскі нунцый арцыбіскуп **Габар Пінтэр** прыляцеў разам з ксяндзом **Уладзіславам Завальнюком**, які і ініцыяваў пабудову Дома пілігрыма.

Прадстаўнік Папы ў Беларусі правёў імшу. На ёй прысутнічала каля 500 вернікаў.

Пасля Габар Пінтэр благаславіў Дом пілігрыма ў Будславе. Цяпер будынак мае імя папы Францішка.

**Паводле catholic.by.**

# Навошта абразаць дрэвы ў гарадах

МАЛАДЗЕЧНА

**Да нас у рэдакцыю часам звяртаюцца чытачы з рэгіёна, якіх непакоіць абрэзка дрэў на гарадскіх вуліцах.**



На такія дрэвы маладзечанка Ала не можа глядзець спакойна.

### Чытачы пытаюцца, ці можна абразаць дрэвы

Нядаўна прыйшла маладзечанка Ала. Яна занепакоеная, што на вуліцах Маладзечна і ў большасці гарадоў рэгіёна абразаюць дрэвы. Ці шмат пражыве дрэва, якому спілавалі ўсе галіны, пакінуўшы адзін ствол, пытаецца чытачка.

Ала мае біялагічную адукацыю. Хвалюецца, што абрэзаныя да ствала дрэвы доўга не жывуць.

### ЖКГ: Ёсць дрэвы, якія мы не можам чапаць

За каментаром мы звярнуліся ў ЖКГ Астраўца. Тут спецыялісты растлумачылі нам, што абрэка дрэў рэгулюецца Законам аб расліннным свеце. У рэгіёне праводзяць санітарную, фармовачную і амаладжальную абрэзку.

Галіны з дрэў абразаюць пераважна вясной і восенню. Часцей робяць амаладжальную абрэзку. У старых дрэў, напрыклад, у ліпы, можна абрэзаць трэцюю частку ўсіх галін для таго, каб выраслі маладыя.

Санітарную абрэзку робяць тады, калі трэба выдаліць хворую крону або сук. Гэта можна зрабіць і летам.

Фармовачная абрэзка патрэбная для дрэў у першыя два гады пасля пасадкі. Яе робяць для таго, каб прыдаць дрэву жаданую форму. Напрыклад, зрабіць яго шарападобным.

Ёсць дрэвы, якія абразаць нельга. Звычайна не чапаюць бярозу, каштан, ясень, бо яны не абнаўляюцца. Асаблівае стаўленне і да старых дрэў, напрыклад, дубоў, якія маюць гістарычную каштоўнасць. Тут задача спецыялістаў – да апошняга спрыяць захаванню такога дрэва.

### Эколаг: Топінг – праблема ўсёй Беларусі

Мы звязаліся з актывістам грамадскай кампаніі «Гарадскі ляснічы» эколагам **Ігарам Корсунам** і спыталі, што пра абрэзку дрэў думаюць эколагі.

– Ад топінгу – абрэзкі дрэў – адмаўляюцца ці ўжо адмовіліся многія прагрэсіўныя краіны. А мы, пераняўшы гэту практыку ад Амерыкі, усё ніяк не можам спыніцца, кажа Ігар. – Але там ужо не практыкуюць такое. Заўважылі, што абрэзанае дрэва становіцца небяспечным.

– Калі спілоўваюць вялізныя галіны, з імі губляюцца рэчывы, неабходныя для энергіі дрэва. Дзе дрэву іх браць, як аднавіцца? З каранёў. А гэта ідзе на шкоду ахоўным механізмам. У выніку ў такога дрэва карані становяцца значна меншымі, з'яўляецца грыбок, хваробы, шкодныя насякомыя.

Пры гэтым не натуральна вялізныя галіны ў абрэзанага дрэва вырастаюць вельмі хутка. Ролю пажыўных рэчываў, таго ж неабходнага крухмалу, выконвае вільгаць. Галіны вырастаюць нетрывалымі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Рэстаўратары Крэўскага замка змушана парушалі тэхналогію, каб асвоіць грошы

СМАРГОНЬ

**Аднаўленая паўночна-заходняя сцяна Крэўскага замка пачала пакрывацца соллю. «Гэта асвойванне сродкаў, а не рэстаўрацыя», – кажуць інжынеры.**

Белыя плямы на сцяне – высалы – з'яўляюцца пры парушэнні тэхналогій кладкі або выкарыстанні няякаснага матэрыялу. Пачынаецца выпарванне лішняй вільгаці з цэглы і раствору. Разам з вільгаццю выпарэецца соль, якая і крышталізуецца на паверхні. Высалы робяць матэрыял менш трывалым.

Выконвала працы кампанія «Белрэстаўрацыя». Як распавядае інжынер кампаніі, іх паставілі ва ўмовы, пры якіх рэстаўратары вымушаныя былі парушаць тэхналагічныя нормы.

«Рэстаўрацыя не мае тэрмінаў, яна патрабуе тэхналогій», – кажа інжынер па якасці ААТ «Белрэстаўрацыя» **Уладзімір Пашалюк**.

Выдзеленыя на сцяну грошы трэба было выкарыстаць да канца года, таму на стан надвор'я і ўмовы не зважалі ды працягвалі ўзвядзенне.

«На гэта ўсё звярнулі ўвагу вытворца рэстаўрацыйных сумесяў »Тайфун«. Яны забаранялі ўжываць гэтыя сумесі ў неспрыяльныя ўмовы. Дождж, снег, ніжэй за +5», – дадаў Пашалюк.

Частку сцяны, на якой выступілі высалы, рабілі ўжо ў маразы. Але прыйшла вясна, і канструкцыя не вытрымала, частка сцяны абвалілася, яе даводзіцца перарабляць.

Цяпер замак на гарантыйным абслугоўванні, плаціць за выпраўленне хібаў давядзецца «Белрэстаўрацыі».

**Паводле Белсата.**




Кілаграм мандарынаў у краме каштуе каля трох рублёў.

# Кава за дзесяць рублёў і бульба фры за восем

## Якія цэны цяпер у Вільні

**У Вільню едуць за ўражаннямі, атмасферай, адпачынкам. Нехта прыязджае да сваякоў. Іншыя хочуць танна закупіцца рэчамі. Некаторыя едуць на вучобу. Але ядуць усе. Мы прайшліся па Вільні і паглядзелі, наколькі адрозніваюцца цэны на ежу ад маладзечанскіх, пералічыўшы іх на нашы грошы.**

МАЛАДЗЕЧНА

Раніца. Вы выйшлі з цягніка ў Вільні, падняліся па эскалатары, пайшлі па каву. Бліжэйшая на вакзале прадаецца ў аўтамаце, які знаходзіцца ў накірунку білетных кас. Кава тут каштуе 1 рубель 89 капеек на нашы грошы, прычым без розніцы, якой аддаяце перавагу – макачына ці звычайнай чорнай. Кошт аднолькавы. Нават для чаю і булёну, што таксама тут ёсць.

Што рабіць, калі любіце натуральную каву? За дзесяць рублёў прапаноўваюць 500 грамаў молатай кавы па акцыі, цана без зніжак – 15 рублёў. Да прыкладу, «Лавацца» ў бляшанцы абыдзецца ў 13 рублёў 50 капеек. Удвая меншы аб'ём каштуе звычайна шэсць-сем рублёў. А калі любіце каву ў пакецiках, цэны вам спадабаюцца – ад 30 да 55 капеек. Напрыклад, «Нескафэ» каштуе 0,54 рубля.

А што наконт кафэ? Недзе можна папіць кавы па «дэмакратычнай» цане за 2 рублі 30 капеек. Найвялікшая цана, што знайшлі, – 10 рублёў. І гэта не дарагі рэстаран, і кава не з золата – па такой цане прапаноўваюць каву з алкаголем, напрыклад, па-ірландску. Пакецік пернікаў да кавы ў краме можаце набыць за 1 рубель 30 капеек.

Магчыма, вы ўжо прагаладаліся, паглядзім, што ляжыць на прылаўках.

Слоік «Нутэлы» каштуе крыху менш за восем рублёў, эквівалент удвая танней. За кілаграм мандарынаў у краме бяруць каля трох рублёў. Вінаград па акцыі каштуе пяць. Агуркі прапаноўваюць па 3 рублі 50 капеек. Па такой жа цане можаце набыць пекінскую капусту.

Цэны на цукар вар'іруюцца ад 1 рубля 10 капеек да двух рублёў. Пакет звычайнай солі абыдзецца ў 1 рубель 30 капеек. Самую танную знайшлі па 92 капейкі. На прылаўках таксама можна сустрэць марскую соль. Каштуе прыкладна 2 рублі 30 капеек. Соду прапаноўваюць па 1 рублю 15 капеек.

Масла каштуе 4 рублі 50 капеек. 720 мл маянэзу ў шкляным слоіку – крыху менш за пяць рублёў. Самыя танныя яйкі, што знайшлі – дзясятак, – каштуюць 2 рублі 34 капейкі. Літр малака 3,2% тлустасці ў каробцы прапаноўваюць за 2 рублі 30 капеек. Малако 2,5% тлустасці – менш чым за два рублі. Паўлітра можна набыць за 1 рубель 40. Кошт малака ў пакеце пачынаецца ад 1 рубля 50 капеек. За кілаграм 9% тварагу аддасце 10 рублёў. Тварожныя сыркі прапаноўваюць прыкладна па рублю.

Сыр ва ўпакоўцы – ад трох рублёў. 900 грамаў кефіру каштуюць 2 рублі 60 капеек. За 400 грамаў смятаны аддасце на 30 капеек менш.

**Дзіўна, але ў крамах можна сустрэць жуйку ў цюбіку. Трэба адкруціць накрыўку і выціснуць, колькі трэба. Каштуе 2 рублі 25 капеек.**

У крамах шмат сасісак менавіта ва ўпакоўках. Цана за 12 штук – каля 10 рублёў. 13 рублёў просяць за кілаграм філе свініны гарачага вэнджання. Слоік селядцоў па акцыі каштуе крыху менш за два рублі. Без акцыі можна знайсці і за пяць. У два рублі абыдзецца кансерваваная кукуруза.

Паўлітра мінеральнай вады з газам прапаноўваюць за 1 рубель 70 капеек. «Стандартны» торт каштуе прыкладна 16 рублёў.

**Для аматараў «хуткага перакусу» прапаноўваюць «Ролтан». Ён абыдзецца ў 65 капеек.**

### А што ў кавярні

Калі стаміліся хадзіць па краме, завітайце ў кафэ, рэстаран ці бар, іх тут шмат.

Макарону з курыцай і грыбамі можна замовіць за 14 рублёў, бульба фры з кетчупам каштуе ад васьмі да дзесяці. З закусак папулярныя аліўкі па пяць рублёў і сухарыкі з часнаком за два пяцьдзясят. Такія ж сухарыкі з сырам і маянэзам каштуюць амаль пяць рублёў. 200 мл соку можна знайсці за два рублі 30 капеек.

А яшчэ заўжды можна замовіць піцу. 50-сантыметровая абыдзецца ў 26 рублёў. Хаця, у залежнасці ад складу, цана піцы такога памеру можа пераваліць за 50.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

**ЦЭНЫ Ў СУПЕРМАРКЕТАХ ВІЛЬНІ І МАЛАДЗЕЧНА**

| ПРАДУКТЫ | Цана, руб. (па курсе 1 еўра = 2,37 руб.) | |
|---|---|---|
| | ВІЛЬНЯ | МАЛАДЗЕЧНА |
| Агуркі, 1 кг | 3,50 | 3,99 |
| Батончык «Мюслі» | 0,80 | 0,60 |
| Бульба фры ў кавярні | 8,00 | 2,70 |
| Вінаград, 1 кг | 5,00 | 6,49 |
| Кава 3 у 1 | 0,30 | 0,29 |
| Кава молатая, 250 г | 6,00 | 5,55 |
| Кава молатая, 500 г | 15,00 | 9,99 |
| Кава ў аўтамаце | 1,89 | 1,00 |
| Кава ў кавярні | 2,30 | 2,50 |
| Кансерваваная кукуруза, 340 г | 2,00 | 1,99 |
| Кефір, 1 л | 2,60 | 1,20 |
| Малако ў каробцы, 900 мл | 2,00 | 1,45 |
| Малако ў пакеце, 1 л | 1,50 | 1,15 |
| Мандарыны, 1 кг | 3,00 | 3,99 |
| Мінеральная вада з газам, 0,5 л | 1,70 | 0,95 |
| Нутэла, 350 г | 7,70 | 10,59 |
| Пекінская капуста, 1 кг | 3,50 | 3,90 |
| Пернікі, 300 г | 1,30 | 1,69 |
| Ролтан | 0,65 | 0,59 |
| Масла, 180 г | 4,50 | 2,89 |
| Смятана, 400 г | 2,25 | 2,30 |
| Сода, 500 г | 1,15 | 1,15 |
| Соль, 1 кг | 0,92 | 0,49 |
| Нарэзаны сыр ва ўпакоўцы, 150 г | 3,00 | 2,29 |
| Селядзец, 160 г | 2,00 | 2,65 |
| Тварог 9%, 1 кг | 10,00 | 7,00 |
| Тварожныя сыркі | 1,00 | 0,55 |
| Цукар, 1 кг | 1,10 | 1,50 |
| Яйкі, 10 шт. | 2,34 | 1,99 |

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 2.05 | 10.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1057 | 2.1090 |
| Еўра | 2.3570 | 2.3620 |
| Злоты, 10 | 5.5054 | 5.5243 |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2645 | 3.2426 |
| Грыўня, 100 | 7.9769 | 7.9735 |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 1.05 | 4.05 |
| Еўра | 2.3300/2.3650 | 2.3200/2.3750 |
| Долар ЗША | 2.0850/2.1150 | 2.0800/2.1300 |

## Замовілі ў мінчука шафы-купэ, у выніку – ні мэблі, ні грошай

**МАЛАДЗЕЧНА СМАРГОНЬ**

Жыхары Маладзечанскага і Смаргонскага раёнаў замовілі мэблю ў вытворцы з Мінска. 38-гадовы мінчанін узяў у заказчыкаў папярэднюю аплату. На гэтым справа і спынілася.

Заявы ад падмануты кліентаў у Маладзечанскі РАУС сталі паступаць у канцы лютага. Як высветлілася, 49-гадовая жанчына аб'яву знайшла ў інтэрнэце. На замеры вытворца прыехаў да яе ў той жа дзень, як заказчыца з ім звязалася. Намалявалі макет шафы-купэ, заключылі дагавор.

Мужчына з'ехаў і больш не вярнуўся. З сабой павёз аванс 550 рублёў.

Па дакуменце, максімальны тэрмін вырабу канструкцыі – тры месяцы. Аднак сам фігурант абяцаў прывезці гатовую шафу на працягу двух з паловай тыдняў. Далей для заказчыцы ў мужчыны заўсёды знаходзіліся адгаворкі: не прывезлі матэрыялы, не паступілі дэталі.

Пасля прадпрымальнік усё ж з'явіўся ў доме кліенткі, пакінуў некаторыя камплектуючыя і з'ехаў. Калі час чакання выйшаў, жанчына звярнулася па дапамогу ў праваахоўныя органы.

З падобнай гісторыяй у міліцыю звярнуўся 26-гадовы маладзечанец, а затым 31-гадовая жыхарка Хажова.

Маладзечанец даў фігуранту папярэднюю аплату на 190 рублёў. Заказчыца з Хажова аддала – 850 рублёў.

Сам фігурант кажа, што хацеў выканаць абавязацельствы, але ўзніклі складанасці. Шкоду кліентам абяцае пакрыць. У дачыненні да мужчыны мера стрымання не абіралася. У яго дзеяннях угледжваюцца прыкметы складу злачынства, прадугледжанага арт. 209 КК (махлярства).

Падманным шляхам бізнесмен завалодаў грашыма і жыхароў Смаргонскага раёна. Раней мужчына трапляў у поле зроку праваахоўнікаў па факце рабавання.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Распілаваў «Запарожац» і незаконна хацеў здаць яго на металалом

**МАЛАДЗЕЧНА**

Падчас рэйду супрацоўнікі ДАІ і крымінальнага вышуку звярнулі ўвагу на «Форд-Транзіт» на вуліцы Маладзечна.

Кіраваў аўтамабілем 66-гадовы гараджанін, які вёз у кузаве машыны каля трохсот кілаграмаў металалому. Прад'явіць неабходныя дакументы на груз кіроўца не змог. Мужчыну і аўтамабіль даставілі ў Маладзечанскі РАУС для высвятлення абставінаў.

Супрацоўнікам аддзялення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі кіроўца растлумачыў, што металалом не яго. Уладальнік лому па-суседску папрасіў мужчыну адвезці груз на пункт прыёму.

Уладальнікам грузу быў беспрацоўны 53-гадовы жыхар Маладзечна. Днямі гандляр набыў у жыхара вёскі Ветхава Смаргонскага раёна стары «Запарожац». На месцы распілаваў машыну на часткі і прывёз у Маладзечна, каб у далейшым здаць тавар і атрымаць прыбытак.

Але на пункт лом не адвёз, папрасіў дапамагчы суседа. Мужчына ўжо не ў першы раз становіцца фігурантам адміністрацыйнага працэсу, звязанага з незаконнай нарыхтоўкай лому з мэтай рэалізацыі.

У снежня 2018 года камерсант быў пакараны штрафам за аналагічнае правапарушэнне – вёз здаваць бытавы лом, скуплены ў грамадзян. Па словах кіроўцы, сусед даўно зарабляе жалезным бізнесам.

Металалом канфіскавалі. У дачыненні да прадпрымальніка склалі адміністрацыйны пратакол па ч. 1-1 арт. 12.7 КаАП Рэспублікі Беларусь «Незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць».

Яму давядзецца заплаціць штраф – да ста базавых велічынь.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## У Алёхнавічах мужчына трапіў пад таварны цягнік і загінуў

**МАЛАДЗЕЧНА**

Пра гэта на сваёй старонцы ў «Твітары» паведаміў афіцыйны прадстаўнік МУС Беларусі **Аляксандр Марчанка**.

Здарэнне адбылося 30 красавіка на чыгуначнай станцыі Алёхнавічы.

49-гадовы жыхар Маладзечаншчыны трапіў пад таварны цягнік Маладзечна-Сцяпянка.

Ад атрыманых траўмаў мужчына загінуў на месцы.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота vk.com/typical_vileyka.

Вынікі хуліганства ў скейт-парку.

# Хуліганы сапсавалі вілейскі скейт-парк

**ВІЛЕЙКА**

**Сапсаванае абсталяванне і спісаныя сцены заўважылі тут першага мая.**

– Моладзі ў скейт-парку першага мая было шмат, – распавядаюць вілейскія актывісты. – Магчыма, нахуліганілі ў гэты дзень. Магчыма, у канцы красавіка.

У скейт-парку распісалі сцены, паламалі разеткі, лямпы, ускрылі электрашчыток.

Па словах актывістаў, ужо вядомыя некаторыя вінаватыя. Усе яны – вучні школ. Бацькі вінаватых школьнікаў гатовыя пафарбаваць сапсаваныя сцены.

Пытанне на кантролі ў вілейскай ЖКГ. У інспекцыі па справах непаўналетніх карэспандэнту паведамілі, што матэрыялаў праверкі па гэтым здарэнні пакуль няма.

Нагадаем, што скейт-парк з'явіўся ў Вілейцы да першага фестывалю моладзевых субкультур у 2015 годзе.

Пляцоўку, куды прыязджаюць паганяць скейтары з усёй Беларусі, пабудавалі ў гарадскім парку на месцы танцпляцоўкі. Сюды пайшлі грошы ад выйгранага гранта і з бюджэту горада.

– Вілейская моладзь скардзіцца на тое, што ў горадзе маладым людзям няма куды пайсці. Дык вось зрабілі ім скейт-парк. Здавалася б, хай бы займаліся. А яны ўчынілі такое, – дзеляцца актывісты з Вілейкі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



## Выкрылі нелегальных здабытчыкаў вугра

**МЯДЗЕЛ**

**Трох жыхароў Мядзельшчыны падазраюць у незаконным рыбалоўстве і здабычы вугра. Па папярэдніх дадзеных, браканьерствам яны займаліся на возеры Мядзел.**

Дзейнічалі асцярожна. Каб узяць парушальнікаў на месцы злачынства дзяржінспектары працавалі не адзін дзень. У чарговы раз паставілі назіральніка каля дома аднаго з падазраваных у вёсцы Стругалапы, што на беразе возера. Калі заўважылі, што двое мужчын ад'ехалі ад дома на аўто, машыну вырашылі затрымаць.

«Шкода» накіравалася ў бок Мядзела. Аднак сігнал аб спыненні, пададзены дзяржінспектарам, кіроўца праігнараваў. Пачаўся праслед.

Калі зламыснікі не змаглі адарвацца, кінулі аўтамабіль і схаваліся.

У багажніку інспектары знайшлі торбу з 85 вуграмі агульнай вагой 45 кг. Частка рыбы была замарожаная.

Асобы ўцекачоў высвятляць не прыйшлося: інспектары ведалі, хто знаходзіўся ў машыне. Гэта тыя самыя жыхары Мядзела, якіх падазравалі ў браканьерстве.

Аднаго ўжо узялі пад варту, другі – у вышуку. У вясковым доме іх змоўшчыка знайшлі дзясяткі забароненых прылад лоўлі – сеткі, бучы, астрогі, нелегальнае ружжо.

Па факце незаконнай транспарціроўкі вугра ўзбудзілі крымінальную справу. Кошт рэдкага ўлову ацэньваюць у 32,5 тысячы рублёў, распавёў карэспандэнту намеснік начальніка Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслліннага свету **Раман Лесін**.

Па яго словах, аматарская лоўля вугра ў Беларусі забаронена. Гэтая ўнікальная рыба нерастуе толькі ў Саргасавым моры. Да 2009 года шклопадобнага вугра для ўсялення ў беларускія вадаёмы імпартавалі з Англіі, Францыі і Літвы.

У апошняе дзесяцігоддзе ў Еўрасаюзе дзейнічае забарона на продаж вугра. З кожным годам яго колькасць у нашых вадаёмах памяншаецца. Вядуцца перамовы аб аднаўленні імпарту рыбапасадачнага матэрыялу вугра ў Беларусь. А пакуль гэта рыба застаецца асабліва каштоўным і асабліва ахоўным прамысловым таварам.

Па ўсіх выпадках парушэння прыродаахоўнага заканадаўства просяць паведамляць па тэлефоне **8 01797 50740** у Мядзельскую міжраённую інспекцыю альбо на «тэлефон даверу» Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь – **8 017 39 00000**, або на тэлефон **102**.

**Аддзел інфармацыі.**

# Чаму вушы трашчаць: шукаем прычыны дысфункцыі сківічных суставаў

**«Есць, ажно вушы трашчаць» – так кажуць пра людзей з добрым апетытам. Ахвота смяяцца, аднак, прападае, калі трэск, шчоўканне, храбусценне ды іншыя трывожныя гукі пасяляюцца за ўласнымі вушамі, а калі быць дакладным – перад вушамі.**



Фота slavia.by

Няхай вашы вушы не прыносяць турботаў.

Акурат там знаходзяцца тыя шчаўкунчыкі, якія носяць шляхетнае імя: скронева-ніжнясківічныя суставы.

Спачатку турбуе не вельмі прыемны гукавы эфект, які можна і не заўважаць. Але аднойчы да храбусцення далучыцца боль і абмежаванне руху ніжняй сківіцы, з-за болю вы не зможаце як след адкрыць рот.

**Гэта пройдзе, ад такога не паміраюць. Але паўторыцца. Таму прапаную разабрацца, што не так, што можна з гэтым рабіць, а чаго лепей не рабіць.**

Сустаў – гэта рухомае спалучэнне двух (трох) костак, з якіх адна – выпуклая, другая – увагнутая, і некалькіх груп мышцаў, якія мацуюцца рознымі канцамі на розныя косткі, і менавіта яны рухаюць сустаў. Калі ўвагнутая і выпуклая паверхні некангруэнтныя (не дапасуюцца, як ключ да замка), між імі будзе храсток, як у калене, напрыклад. Называецца меніск, і вісіць гэты храсток на звязках, крыху соваючыся ў адпаведнасці з рухамі костак абапал яго.

Гэты сустаў – парны, ён рухаецца ў трох плоскасцях, мае сустаўны дыск-меніск. Чым жа ён розніцца ад астатніх? Зубамі. На руху любой часткі цела ўплывае стан костак, храсткоў, сустаўных сумак, мышцаў, сухажылляў, нерваў і сасудаў. На суставы ніжняй сківіцы ўплываюць яшчэ і зубы.

Фігурысты, гімнасты і танцоры дасканала валодаюць суставамі цела. Але ніхто з іх не адчуе макавага зерня, пакладзенага ў сагнутае калена ці локаць. Многія людзі не адчуюць такую драбязу нават у пальцах. А паміж верхнімі і ніжнімі зубамі адчуе кожны. Мы можам грызці арэхі і згінаць зубамі сталёвы дрот. А можам гадзінамі трымаць у роце яйка ці злёгку пажаваць уласны язык, не прычыняючы болю і шкоды. Пачухайце ніжнімі зубамі верхнія, ацаніце тонкую настройку вашай сківічнай сістэмы.

Што ж прымушае такі дасканалы механізм рыпець і барахліць?

### 1. Вострая траўма

Увесь арсенал байцоўскіх прыёмаў, прыкладзены да любога месца вашай сківіцы, выклікае траўму абодвух суставаў. Тое ж датычыцца падзення на падбародак. Невялічкія сустаўныя галоўкі, ратуючы галаўны мозг ад сур'ёзнай траўмы, не проста ламаюцца – літаральна складваюцца, разрываючы не толькі звязачкі меніска, але і сустаўную капсулу, а ў цяжкіх выпадках – нават вонкавы слыхавы праход.

Адламаная косная частка можа сама прырасці на месца, а калі плошча кантакта са сківіцай недастатковая ці кантакту няма, адламаны фрагмент з часам рассмоктаецца, а рэшта сківіцы, цалкам верагодна, выгадуе новую сустаўную галоўку. Хай не такую дасканалую, але дастатковую, каб сустаў-напарнік не застаўся без партнёра. А вось звязачкі меніска, небаракі, цяжка аднаўляюцца нават пасля моцнага ўдару сустава, калі пералом не адбыўся, але ўдар быў моцны.

Бывае так, што сустаўная ўпадзіна неглыбокая, сустаўная галоўка ад прыроды пляскатая і пры моцным крыку, сутаргах, шматразовых ванітах ці спробах празмерна адкрыць рот звязкі груба расцягваюцца, сківіца выскоквае з сустава. Рот адкрыўся – і сам закрыцца не можа.

Дыск-меніск пачне правісаць, боўтацца і зашчамляцца між чэрапам ды сківіцай, а потым саскокваць – і мы гэта адчуем, як храбусценне ці шчоўканне.

***Што трэба рабіць?***

Пры кожнай траўме сківіцы звяртацца да сківічна-тваравага хірурга ці хірурга-стаматолага. Ён распіша схему лячэння і рэабілітацыі.

*Агульныя парады:*

• холад двое сутак пасля траўмы (лепей па 10-15 хвілін на кожны сустаў напераменку, нават калі баліць толькі з аднаго боку);

• кругавая павязка эластычным бінтам, якая падтрымлівае рот закрытым без удзелу вашых мышцаў (зубы па магчымасці самкнёныя ў звыклым прыкусе), першыя дні – круглыя суткі, потым – падчас сну, агулам два тыдні;

• абязбольвальныя прэпараты, але не аспірын, не цытрамон ды іхнія джэнерыкі;

• катэгарычна забаронена на два тыдні кусаць, жаваць грубую ежу ці жуйку, пазяхаць, шмат і гучна размаўляць, спяваць, псіхаваць, прастываць, труціцца, лячыць і выдаляць зубы (толькі па жыццёвых паказаннях).

**Ідэальна: нямая рыба ў наморднiку, якая ў цёплым утульным акварыуме смокча дзіцячае харчаванне і супы-пюрэ праз саломінку і размаўляе толькі на мігах з выключна прыемнымі людзьмі.**

### 2. Хранічная траўма

Прырода дала чалавеку тры дзясяткі зубоў і размясціла іх ідэальным чынам, каб разцы адкусвалі, клыкі адрывалі, карэнныя зубы перамолвалі, прычым на правы і левы бок прыходзілася аднолькава раўнамерная нагрузка.

У вас не так? А калі вы хочаце мець добрыя скронева-ніжнясківічныя суставы, павінна быць так. І дапамогуць вам стаматолагі-артапеды.

План лячэння будзе вельмі індывідуальны, і ў той жа час даволі падобны:

А) Залячыць усё, што трэба, уключаючы прафесійную гігіену, карыес, дэфекты зубоў і пломбаў, дзясны; шыніраваць зубы, калі гэта неабходна.

Б) Выдаліць усё, што не можа быць якасна залечана, асаблівую ўвагу – зубам «мудрасці». Калі яны лезуць «не ў дугу», варта развітацца, хай сабе карыес іх нават не крануў.

В) пры дапамозе пратэзаў, пломбаў, аклюзійных накладак аднавіць форму і змест зубных радоў, наблізіўшыся да вышэй апісанага ідэалу.

Г) маладым зубатым асобам любога веку паказаная перыядычная прышліфоўка зубоў. Ведаеце, як падганяюць пломбу пры дапамозе капіравальнай паперы? Вось так можна праверыць, на якім месцы сківіца «падскоквае на ўхабе», наносячы дробную шкоду суставу, якая рана ці позна матэрыялізуецца ў боль, храбусценне і іншую трасцу. Лёгкі дотык бормашыны да праблемнай кропкі – і сківіца пачынае слізгаць як трэба. Для зубоў гэта не шкодна: зубы мусяць паступова сціраць, гэта прадугледжана эвалюцыяй. Толькі сціранне не заўжды адбываецца раўнамерна, і гэта варта падправіць.

Д) выпраўленне прыкусу, калі дазваляе ўзрост і стан здароўя.

Тое, што прыкус можна выправіць у кожным узросце – абсалютная праўда. Але варта ведаць яшчэ дзве праўды:

• не любы стан зубоў (і не любы стан агульнага здароўя) дазваляе выпраўленне прыкусу;

• калі прыкус выправіць, а звычкі, сфармаваныя дзесяцігоддзямі, пакінуць, хутка пасля лячэння ўсё стане, як было, толькі горш, і мінус грошы і патрачаны час.

**Для аматараў тонкасцяў: на прыкус уплывае дыханне, жаванне, глытанне, міміка, мова і асаблівасці маўлення, пастава, у тым ліку – падчас сну, харчаванне, псіхічны стан і гарманальны фон. І шкодныя звычкі.**

А здольнасць зафіксаваць станоўчыя вынікі лячэння моцна звязаная з агульным станам: дыябет, астэапароз, праблемы шчытападобнай залозы і процьма іншых пашыраных дыягназаў.

### 3. Псіхічная траўма

Схема простая, як тэарэма Піфагора:

**Хранічны стрэс – няправільная пастава – паталагічны тонус мышцаў шыі – паталагічны тонус мышцаў твару. Востры стрэс – крык альбо сцісканне зубоў – спазм мышцаў твару. Гэта прыводзіць да няправільнай траекторыі ніжняй сківіцы.**

Паколькі пазбавіцца ад стрэсаў – утопія, ідзём насустрач здароўю адразу трыма шляхамі:

• медытацыі-рэлаксацыі-аўтатрэнінгі;

• седатыўныя прэпараты-супакойвальныя працэдуры;

• гімнастыкі-масажы-кінэзіятэрапіі.

Ці перастане шчоўкаць? Перастане, пры адной умове: катэгарычна нельга правяраць, а ці перастала шчоўкаць.

Прывучыцеся адкрываць рот, не даводзячы да таго моманту, пакуль трэсне. Тады і храбусценне перастане, і балець не пачне.

**Алена ЦЕРАШКОВА, сківічна-тваравы хірург, Мінск.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі 100 С4, 1991 г.в., седан, чорны, 5000 рублёў. Т. (8-029) 3380491.

• **АЎТАЗАПЧАСТКІ** б/у з Бельгіі, у наяўнасці і пад заказ. Смаргонскі раён, в. Светач, 3. ІП Казакевіч А.В. УНП 591813704. Т. (8-044) 5431954, (8-029) 8338286.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Іншамарку, якая патрабуе тэрміновага продажу. Т. (8-044) 4506876.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы з еўрарамонтам альбо памяняю на Мінск. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 9485029.

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Будаўнікоў, 15. Дача ў Мясаце, таварыства «Вяснянка». Т. (8-029) 6584024, (8-029) 6268940.

• 3-пакаёвая кватэра ў цагляным доме ў Маладзечна, у добрым раёне. Т. (8-044) 5544438.

• Дача ў вёсцы Прынта. Т. (8-01771) 39721, (8-029) 7005176.

• Дом пад дачу ў в. Шчапаны Смаргонскага раёна. Т. (8-033) 6887978.

• Дом у вёсцы Маркаўцы Смаргонскага раёна з гаспадарчымі пабудовамі (лазня, калодзеж), 25 сотак, побач рака Вілія. Т. (8-029) 9734412.*

• Кватэра ў Вілейцы ў 2-пакаёвым блочным доме з усімі выгодамі агульнай плошчай 78 кв. м. Т. (8-029) 7667446.

• Паўдома ў Маладзечне, канапа, газавы балон, торфабрыкет. Т. МТС (8-029) 7060485.*

### МЯНЯЮ

• 2-пакаёвую кватэру па вул. Кастрычніцкай на дом. Вілейка. Т. (8-029) 2375721.*

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• **АРЭНДА МІНІ-ЭКСКАВАТАРА, ЭКСКАВАТАРА, ПАГРУЗЧЫКА. УП «ТГВБУД» УНП 692024702 Т. ВЭЛКОМ (8-029) 9115605.***

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ** любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• **АЎТАНОМНЫЯ КАНАЛІЗАЦЫІ. СЕПТЫКІ. УП «ТГВБУД» УНП 692024702 Т. ВЭЛКОМ (8-029) 9115605.***

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• **ВОДАПРАВОД. АЦЯПЛЕННЕ. КАНАЛІЗАЦЫЯ. УП «ТГВБУД» УНП 692024702 Т. ВЭЛКОМ (8-029) 9115605.***

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• **ГАЗ. ПРАЕКТАВАННЕ І БУДАЎНІЦТВА. УП «ТГВБУД» УНП 692024702 Т. ВЭЛКОМ (8-029) 9115605.***

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт камп'ютараў, ноўтбукаў, маніtoраў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛОЎВАННЕ і АБРЭЗКА** дрэў. Магчымы вываз, выкарчоўванне пнёў. Скідкі. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. Вэлком (8-029) 3301964, МТС (8-029) 8177983.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцы**і**. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Прычэп да мотаблока. Т.(8-033) 3723298, (8-029) 6843087.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• Антэна спадарожнікавая. Т. (8-029) 5019550, (8-025) 9228516.*

**Мэбля**

• Стол кухонны з масіву бярозы. Т. (8-029)5628537.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Авечкі раманаўскай пароды на развядзенне. Т. Вэлком (8-029) 3312324.*

• Індычаняты БІГ-6 і кураняты: бройлерныя КОББ-500, кураняты-нясушкі, цасаркі. Дастаўка. Т. МТС (8-033) 6908397, Вэлком (8-029) 6938397.*

• Карова дойная, цялушка 14 мес., бычкі. Т. (8-025) 7894666.

### КУПЛЮ

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Граблі да трактара. Т. (8-029) 7680041.

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **ЖК-ТЭЛЕВІЗАР**, ЖК-манітор, ноўтбук, калонкі, узмацняльнікі, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Бульбу буйную оптам. Т. (8-029) 7707838, (8-029) 2637474.

• Літаратуру на польскай або іншых заходнеславянскіх мовах. Т. (8-029) 5019550, (8-025) 9228516.*

### ЗГУБЛЕНА

• Згубленыя дакументы (партаманет) на імя Смолкі М.В. прашу вярнуць за ўзнагароду. Т. (8-029) 1247481.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Арганізацыі ў Маладзечне патрабуецца вадзіцель-міжнароднік. Маршрут: Еўропа – РФ. Высокая і своечасовая аплата працы. ПГУП «Масис Групп» УНП 690693934 Т. (8-029) 5665809.*

• Слесар МЗР, токар. Т. (8-029) 5092609.*

# Вызначылі парадак вядзення ўліку даходаў і расходаў індывідуальнымі прадпрымальнікам

5 красавіка ў сілу ўступіла Пастанова Міністэрства па падатках і зборах ад 30 студзеня №5 «Аб зацвярджэнні Інструкцыі аб парадку вядзення ўліку даходаў і расходаў».

Інструкцыяй усталяваны парадак вядзення ўліку даходаў і расходаў індывідуальнымі прадпрымальнікамі, натарыусамі, якія ажыццяўляюць натарыяльную дзейнасць у натарыяльным бюро, а таксама адвакатамі, якія ажыццяўляюць адвакацкую дзейнасць індывідуальна.

Згодна з Інструкцыяй, вядзенне ўліку ажыццяўляецца на аснове дакументальна пацверджаных дадзеных аб аб'ектах, якія падлягаюць падаткаабкладанню альбо звязаных з падаткаабкладаннем.

Таксама ўстаноўлена, што вядзенне ўліковых дакументаў можа ажыццяўляцца як на папяровых носьбітах, так і ў электронным выглядзе.

**Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне.**

# Некаторыя асаблівасці правядзення валютных аперацый

У адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў і Нацбанка «Пра некаторыя пытанні правядзення валютных аперацый» ад 29 сакавіка №212/5 індывідуальныя прадпрымальнікі, зарэгістраваныя ў Беларусі, маюць права:

• выкарыстоўваць наяўную замежную валюту для разлікаў за межамі Рэспублікі Беларусь па здзелках, якія прадугледжваюць імпарт тавараў, у суме, якая не перавышае 100 базавых велічынь па кожным з дакументаў, які пацвярджае паступленне тавараў на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь;

• купляць наяўную замежную валюту ў банку, абменным пункце, касе, тэрмінале аўтаматычнага абмену валюты ў парадку, устаноўленым для ажыццяўлення валютна-абменных аперацый з удзелам фізічных асоб, для разлікаў за мяжой па здзелках, якія прадугледжваюць імпарт тавараў.

Арганізацыі і індывідуальныя прадпрымальнікі, якія ажыццяўляюць транспартную і (або) транспартна-экспедыцыйную дзейнасць і якія з'яўляюцца рэзідэнтамі Рэспублікі Беларусь, маюць права прымаць наяўную замежную валюту ад нерэзідэнтаў у якасці аплаты за экспартаваныя транспартныя і (або) транспартна-экспедыцыйныя паслугі ў суме, якая не перавышае 1000 базавых велічынь па кожнай дамове.

Пастанова ўступае ў сілу пасля яе афіцыйнага апублікавання і распаўсюджвае сваё дзеянне на адносіны, якія ўзніклі ад 1 сакавіка 2019 года.

**Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне.**




Кацярына Монід на абласным конкурсе.

## Маленькая даследчыца перамагла на рэспубліканскім конкурсе

МАЛАДЗЕЧНА

Пра поспехі выхаванкі дзіцячага садка №35 **Кацярыны Монід** «Рэгіянанальная газета» пісала ў сакавіку.

Тады Каця Монід заняла першае месца на абласным конкурсе «Я – даследчык» у намінацыі «Мая радзіма – Беларусь».

У канцы красавіка адбыўся рэспубліканскі этап конкурсу юных даследчыкаў.

І там дзяўчынка з Маладзечна таксама стала першай у сваёй намінацыі.

Нагадаем, што пад кіраўніцтвам выхавальніка **Паліны Сарокінай** дзяўчынка падрыхтавала навукова-даследчую працу «Чаму Чырвоная кніга так называецца».

Падчас даследавання было некалькі гіпотэз. У выніку маленькая даследчыца прыйшла да высновы, што чырвоны колер сведчыць пра небяспеку. Адсюль і назва кнігі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Віктара Шніпа ўзнагародзілі медалём Францыска Скарыны

ВАЛОЖЫН

Указ пра гэта падпісаў **Аляксандр Лукашэнка**.

**Віктар Шніп** – паэт, пісьменнік, неаднаразовы герой публікацый нашай газеты, галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Пісьменнік нарадзіўся ў вёсцы Пугачы, што на Валожыншчыне. Неаднаразова бываў і бывае на творчых сустрэчах і літаратурных мерапрыемствах у рэгіёне.

Яго вершы друкаваліся ў «Рэгіянальнай газеце» ў межах праекта «Літпарад Павілля».

Разам з жонкай пісьменніцай **Людмілай Рублеўскай** Вітар Шніп прыязджаў на адкрыццё мемарыяльнай дошкі **Змітраку Бядулю** ў Ілью.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Зладзяць конкурс «Татавы дочкі»

ВІЛЕЙКА

Мерапрыемства адбудзецца 1 чэрвеня ў 18:00 у мікрараёне Паўночны. Арганізатары – аддзел ідэалогіі, культуры і па справах моладзі і ўпраўленне адукацыі, спорту і турызму Вілейскага райвыканкама.

Згодна з палажэннем, удзельнічаць у конкурсе змогуць таты з дочкамі, якія пададуць заяўку. Дзяўчынкам павінна быць ад пяці да дзесяці год.

Будзе некалькі этапаў:

• Візітоўка-прадстаўленне «Мы – адзінае цэлае».

• Конкурс талентаў «Брава», дзе ўдзельнікі павінны будуць прадэманстраваць свае здольнасці ў нейкім з відаў мастацтва: вакал, харэаграфія і інш.

• Конкурс «Мой першы баль», дзе таты прыбяруць дачушак: зробяць ім прычоску, макіяж. А потым будуць танцаваць разам.

• Віктарына «Усё тата ведае пра мяне?!»

Заяўкі да ўдзелу можна падаваць да 27 мая ў Палац культуры. Адрас: **вуліца Вадап'янава, 21**. Або на электронную пошту **vileyka-dk@mail.ru**.

Даведкі па тэлефоне: **8 (01771) 5-43-72**.

Па выніках конкурсу прысудзяць спецыяльныя намінацыі, Гран-пры і «Прыз глядацкіх сімпатый». Усе ўдзельнікі атрымаюць дыпломы і каштоўныя падарункі (гіраскутары, ролікі, самакаты, канструктары, наборы для гульняў).

Прадугледжаны і спецыяльны прыз для найлепшай групы падтрымкі.

**Аддзел інфармацыі.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ




Юліян Фрайтаг з Германіі прыязджаў у Беларусь, каб прыбіраць пахаванні часоў вайны.

# Мы не павінны адказваць за дрэнныя ўчынкі продкаў

## Што сёння немцы гавораць пра Другую сусветную

**Дзень Перамогі ў Другой сусветнай у рэгіёне адзначаюць традыцыйнымі парадамі, мітынгамі і шэсцямі. А што думае пра гэту дату і пра трагічную падзею мінулага стагоддзя пераможаны бок?**

МЯДЗЕЛ
ВІЛЕЙКА

Як піша партал dw.com, у Германіі няма такога свята. Там адзначаюць Дзень вызвалення ад нацыянал-сацыялізму – восьмага мая. У гэты дзень у 1945 годзе падпісалі акт аб капітуляцыі Германіі. У першыя гады пасля вайны адзначалі найперш гадавіну паражэння Германіі. Ад 1985 года акцэнт пачалі рабіць на вызваленне краіны ад нацыял-сацыялізму.

> **У Германіі вайну не называюць Вялікай Айчыннай. Тут яна, як ва ўсёй Еўропе, Другая сусветная.**

У ГДР ад 1950 да 1966 года 8 мая святкавалі Дзень вызвалення нямецкага народа ад гітлераўскага нацызму. У гэты дзень быў выхадны. Ад 1967 выхадны адмянілі, а дзень памяці па-ранейшаму застаўся.

У 1975 годзе, у 30-годдзе заканчэння Другой сусветнай, у ГДР Дзень Перамогі па савецкім узоры адзначалі 9 мая.

У розныя гады карэспандэнты «Рэгіянальнай газеты» гутарылі з жыхарамі Германіі пра тое, што кажуць у іх на радзіме пра Другую сусветную.

### Тэма Другой сусветнай у Германіі – вельмі далікатная

Штогод у дзіцячы цэнтр «Надзея», што на Вілейшчыне, прыязджаюць рамеснікі з Германіі. Гэта – працоўны дэсант. У цэнтры яны рамантуюць электратэхнічнае і сантэхнічнае абсталяванне, устанаўліваюць энергазберагальныя свяцільнікі.

У «Надзеі» мы пазнаёміліся з **Петэрам Бевенсдорфам** з нямецкага мястэчка Ботрап. Вось што распавёў Петэр:

– У Германіі тэма Другой сусветнай – вельмі далікатная. Аднак мы, пасляваеннае пакаленне, не павінны адказваць за дрэнныя ўчынкі сваіх продкаў. Паглядзіце, сёння большасць маіх суайчыннікаў вельмі цярпліва ставяцца да шматлікіх бежанцаў, што жывуць у Германіі. Ці не таму, што не хочуць варожасці паміж народамі?

Петэр прыгадаў словы прэзідэнта федэральнай зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія пра тое, што жыхары сучаснай Германіі не маюць адносін да той вайны, аднак асноўная іх задача – не паўтарыць таго, што здарылася ў 1940-я.

> **– Вось мы і працуем над гэтым, – распавядае Петэр. – Едзем у Беларусь не разбураць, а будаваць, сябраваць і ствараць масты дружбы.**

### Нельга разабрацца ў прычынах Другой сусветнай, не ведаючы пра Першую сусветную

Нямецкі гісторык-магістрант **Юліян Фрайтаг** у Беларусь прыязджаў у жніўні 2018. Тут хлопец удзельнічаў у рабоце беларуска-нямецкага летніка. Маладыя людзі прыбіралі пахаванні Першай і Другой сусветных войнаў. З хлопцам мы пазнаёміліся на Мядзельшчыне, у лесе ля вёскі Пронькі. Тут месцяцца нямецкія пахаванні часоў Першай сусветнай.

Юліян распавёў, што доўгі час у яго сям'і, як і ў Германіі ўвогуле, не прынята было гаварыць пра вайну. Толькі нядаўна дзядуля пачаў крыху распавядаць унуку пра ваенныя падзеі:

– Дзядуля быў салдатам Другой сусветнай ва ўзросце 15 гадоў. Адзін год падчас вайны быў у Англіі. Пасля вярнуўся ў Германію.

Па словах Юліяна, у яго на радзіме, як і ў Беларусі, пра Першую сусветную кажуць мала.

Крыху больш пра падзеі 1914-1918 гадоў пачалі згадваць у сувязі са стогадовым юбілеем Першай сусветнай: ладзяць розныя гістарычныя выставы, з'яўляецца літаратура на гэту тэму. На думку Юліяна, нельга разабрацца ў прычынах і падзеях Другой сусветнай вайны, не ведаючы пра Першую.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# «Пісьмы аб смерці маіх сыноў...»

## Што такое не дачакацца сыноў з фронту

**Перада мной старыя дакументы, лісты, фатаграфіі. Адзін стосік, беражліва прашыты, падпісаны: «Паведамленне і пісьмы аб смерці маіх сыноў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны 1941-45 гг.»**

Папка з дакументамі, падпісаная «Мая асабістая справа», засталася ў нашай сям'і ад бацькавага дзядзькі Іосіфа Данатавіча Манцэвіча (1888 – 1974). Баявы афіцэр у першую сусветную, кавалер трох ордэнаў за баявыя подзвігі, пасля камандзір палка ў Чырвонай Арміі, у чэрвені 1941 года вяртаецца «пасля адбыцця тэрміну пакарання» па славутым 58-м артыкуле ў горад Каўроў. А менш чым праз месяц ён ужо ў эвакуацыі ў Фергане.

Удавец, два сыны-студэнты вучацца ў Маскве.

Невялічкі аркушык. Пахавальнае паведамленне на чырвонаармейца Усевалада Манцэвіча аб яго геройскай смерці 23 сакавіка 1943 года. Два лісты ад аднапалчан Дзмітрыя, які загінуў вясной 1942 года ў вёсцы Паўлава Малвоціцкага раёна Ленінградскай вобласці. Абодва на адваротных баках пісьмаў бацькі да Дзмітрыя.

Лісты Іосіфа Данатавіча, напісаныя простым чарнільным пяром на аркушы з вучнёўскага сшытка ў клетку, нават сёння ўражваюць каліграфічнасцю почырку.

З ліста бацькі да сына, датаванага 7 красавіка 1942 года:

«Дарагі Дзіма!

Радуюся за цудоўны стан байцоў, як камандзір, і ў прыватнасці за твой, як бацька. Чакаю, ведаю, што пройдзешся па маіх родных месцах. БССР не мала ў мінулым пахавала на сваіх палях псоў-рыцараў, хопіць месца і для фашысцкай сволачы.

Гані і знішчай фашысцкіх малойцаў, як гналі нашы продкі іх псоў-рыцараў...

Цалую моцна! Татка».

На абароце ліста простым алоўкам хуткім почыркам адказ. Не ад Дзімы.

«Дарагі тав. Манцэвіч. Гэтым паведамляю вам, што Ваш сын загінуў смерцю героя ў барацьбе з нямецкімі фашыстамі і пахаваны ў вёсцы Паўлава Малвоціцкага раёна Ленінградскай вобласці.

Палітрук роты П.Матвееў.

P.S. Жадаю Вам поспеху і бадзёрага духу».

Бацька не ведаў, пішучы гэты ліст, што сына ўжо няма ў жывых. Дзіма загінуў 21 красавіка, праз два дні, 23 красавіка, загінуў і Воля, Усевалад (у пахавальным паведамленні памылка – замест 1942 указаны 1943 год).

Яшчэ адзін ліст з фронту тлумачыць абставіны смерці Дзмітрыя. Піша камісар ПТР Жураўлёў З.Р.

«Ваш сын загінуў ад міны ворага, калі населены пункт намі быў узяты. На адпачынку міна патрапіла проста ў тое месца, дзе знаходзіўся Ваш сын. Тав. Манцэвіч, ваш сын змагаўся як патрыёт радзімы. Не ведаў ніякага страху. І мы пахавалі яго як дастойнага воіна нашай краіны. Ваш сын быў у мяне з Масквы – адным з самых (лепшых) грамадскіх актывістаў і адданым нашай радзіме і партыі Сталіна. Мы пакляліся за нашу кроў жорстка ворагу адпомсціць».

Перад вайной Дзіма вучыўся ў Маскоўскім інстытуце хімічнага машынабудавання (МІХМ). Добраахвотнікі-студэнты і выкладчыкі гэтай ВНУ ў кастрычніку 1941 года сталі касцяком 3-й Маскоўскай камуністычнай дывізіі. Пра гэта напісаў у 1971 годзе ў сваім лісце да Іосіфа Данатавіча аднапалчанін Дзмітрыя Кірыл Салазкін.

«З кастрычніка па канец студзеня 1942 года Дзіма быў камандзірам узвода разведкі Баўманскага камуністычнага батальёна. Мне давялося служыць у гэты час пад яго камандаваннем, то магу запэўніць Вас, што з гэтай службай ён спраўляўся вельмі добра (а гэта было складана, бо ўсе байцы былі такія ж студэнты, як і ён, а некаторыя ўжо сталі інжынерамі).

Дзіма ўмеў падтрымліваць добрую дысцыпліну, не парушаючы таварыскіх стасункаў.

На фатаграфіі, змешчанай у газеце (шматтыражная газета інстытута, падшытая разам з пісьмамі – А.М.), – узвод, якім камандаваў Дзіма. Дзіма сядзіць у сярэднім радзе трэці злева. Побач з ім сядзіць камісар нашага батальёна. На гэтай фатаграфіі нас 20 чалавек. У жывых засталося толькі 5».

Кірыл Аркадзьевіч Салазкін пасля другога ранення вярнуўся ў свой родны інстытут. З часам стаў выкладчыкам, прафесарам. Да сваёй смерці ў 1991 быў адным з захавальнікаў памяці герояў той вайны, вучняў і выкладчыкаў МІХМа.



Отцу Манцевич И.Д. Кирова 26

Н.К.О.—С.С.С.Р.
Ферганский Городской
Объединенный
Военный Комиссариат
2-я Часть
31 Октября 1943
№ 1826
г. Фергана

**Извещение**

Ваш сын красноармеец
(сын, брат, муж, военное звание)
Манцевич Всеволод Иосифович
(фамилия, имя и отчество)
уроженец г. Витебска
(область, район, деревня, село)
в бою за Социалистическую Родину, верный воинской присяге, проявив геройство и мужество, погиб 23 марта 1943 года
(убит, ранен и умер от ран)
похоронен
(место похорон)

Настоящее извещение является документом для возбуждения ходатайства о пенсии (приказ НКО № 138).

Ферганский Горвоенком, (Трофимов)
Майор
Начальник 2-й части,
Капитан Адм. службы
Зак. 2207

Пахавальнае паведамленне аб гібелі чырвонаармейца Усевалада Манцэвіча Бацьку Іосіфу Данатавічу.



Будучы камандзір узвода разведчыкаў, на момант здымкі студэнт, Дзмітрый Манцэвіч. Загінуў у 1942 годзе.



Дорогой Дима! 7/IV 42 г.
Радуюсь за прекрасное состояние бойцов, как командир, и в частности за твое, как отец. Жду, знаю, что пройдешься по...

Дорогой тов. Манцевич
Настоящим сообщаю что Ваш сын погиб смертью героя в борьбе с немецкими фашистами и похоронен в деревне Павлово Малвотицкого Района Ленинградской области
P.S. Желаю Вам успеха и бодрого духа

Пісьмо ад бацькі (уверсе) сын Дзіма не атрымаў. Яно вярнулася з паведамленнем палітрука аб яго смерці (знізу).

Даследчыца гісторыі інстытута Ніна Міхайлаўна Канавалава піша, што Дзмітрый Манцэвіч быў ужо выкладчыкам гэтай ВНУ. Магчыма. Толькі гэта ні на ёту не магло зменшыць боль ад страты двух сыноў Іосіфа Манцэвіча, жыццё якога пасля вайны пачало ва ўсіх сэнсах зваротны адлік.

З характарыстыкі на І.Д.Манцэвіча, выдадзенай загадчыкам Фергенска 21 мая 1943 года.

«...дысцыплінаваны, акуратны. Стойка пераносіць нягоды (удавец, з двух сыноў на фронце адзін геройскі загінуў, другі ў невядомасці). Беларус па нацыянальнасці, пажылы (55 гадоў), адзінокі, але бадзёры і здаровы. Сэнс жыцця ў цяперашні час бачыць толькі ў няспыннай і лепшай рабоце, якая забяспечвае не толькі выгнанне, але і поўнае знішчэнне фашызму, як выключнага зла чалавецтва».

Памёр Іосіф Данатавіч у 1974 годзе ў Мінску, дзе дажываў свой век у сям'і пляменніка, майго дзядзькі Георгія, Юры. Пахаваны на сваёй радзіме ў мястэчку Іказнь на Браслаўшчыне.

На што і на каго разлічваў дзед Іосіф, калі на схіле свайго жыцця падпісваў і прыводзіў у парадак гэтыя паперкі? Не шукаю на гэта адказу. Проста лічу неабходным расказаць пра гісторыю пісьмаў з фронту сваім сучаснікам, каб памяць пра Дзіму і Волю засталася жывой.

Дзякую за дапамогу ў падрыхтоўцы гэтай публікацыі майму бацьку Барысу Манцэвічу і прафесару Генрыху Кардашаву (Масква).

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

## Гудагайскую школу ўзначаліў 28-гадовы Уладзімір Крывец

АСТРАВЕЦ



Гудагайскую сярэднюю школу ўзначаліў **Уладзімір Мікалаевіч Крывец**.

Уладзімір Мікалаевіч нарадзіўся ў 1991 годзе ў Ашмянах. У 2009-м скончыў сярэднюю школу №3 з эстэтычным ухілам і паступіў у Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы. На трэцім курсе падчас абмену студэнтамі год адвучыўся ў Маскоўскім інжынерна-тэхнічным інстытуце.

Працаваць пачаў у 2015 годзе ў Гудагайскай сярэдняй школе настаўнікам фізікі, пазней выкладаў гэты прадмет у сярэдняй школе №2 і гімназіі №1.

Апошнія гады з'яўляўся намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце СШ №2.

Жанаты, выхоўвае трохгадовага сына Паўла.

**Паводле ostrovets.by.**

## Атрымаў бронзавы медаль на Міжнароднай алімпіядзе па хіміі

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 21 да 27 красавіка ў Санкт-Пецярбургу ладзілі 53 Міжнародную Мендзялееўскую алімпіяду школьнікаў па хіміі.

Алімпіяда складаецца з трох тураў: першы і другі – тэарэтычныя, трэці – эксперыментальны. У першым туры ўдзельнікі рашалі восем задач па неарганічнай, арганічнай, аналітычнай, фізічнай хіміі і навуцы пра жывое.

У эксперыментальны туры працавалі ў хімічнай лабараторыі: выконвалі хімічны аналіз рэчываў, праводзілі сінтэз па прапанаванай методыцы, паведамляючы аб эўраўленні адукацыі Мінаблвыканкама.

Каманду Беларусі прадстаўлялі шэсць навучэнцаў. У выніку беларусы атрымалі чатыры медалі: адзін залаты, адзін сярэбраны і два бронзавыя.

Бронзавы медаль заваяваў адзінаццацікласнік з маладзечанскай гімназіі №10 **Іван Мамчыц**.

Рыхтавала пераможцу настаўніца **Аксана Віктараўна Каляда**.

**Аддзел інфармацыі.**

## У сажалках Вілейшчыны пасялілася сям'я амерыканскіх веслханосаў

ВІЛЕЙКА

Новую сям'ю рэдкай рыбы з сямейства асятровых запусцілі ў сажалкі Вілейскага рыбгаса.

Амерыканскія веслханосы ў прыродзе жывуць у рацэ Місісіпі.

Кожная рыбіна дасягае паўтара метраў у даўжыню і важыць каля 30 кілаграмаў.

Малькоў запусцілі ў сажалкі гаспадаркі раней. Цяпер рыба гатовая даць першае патомства.

Дарослых самак спецыялісты адправілі ў эксперыментальную сажалку, а астатніх акуратна вылавілі і перасялілі ў летнія вадаёмы. У кожнай рыбіны ёсць адмысловы чып, каб сачыць за іх развіццём і месцазнаходжаннем.

Пры эфектыўнай колькасці папуляцыі гэтай асятровай рыбы праз некалькі год можна будзе прадаваць веслханоса і яго каштоўную чорную ікру ў крамах.

**Паводле sb.by.**

## Установа і раён рэгіёна – на рэспубліканскай Дошцы гонару

ВІЛЕЙКА
АСТРАВЕЦ

Указ пра гэта **Аляксандр Лукашэнка** падпісаў 29 красавіка.

Вілейскі тэрытарыяльны цэнтр у спісе пераможцаў штогадовых рэспубліканскіх спаборніцтваў за дасягненне высокіх вынікаў у галіне сацыяльна-эканамічнага развіцця ў 2018 годзе.

Установа названая адной з лепшых сярод арганізацый сацыяльнага абслугоўвання Беларусі.

Таксама на дошку трапіў Астравецкі раён, Мінская і Гродзенская вобласці.

**Паводле сайта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

# Гарадзішча трэба ўключыць у пералік прыродных помнікаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Хачу расказаць чытачам аб прыродным аб'екце – гарадзішчы, якое знаходзіцца недалёка ад маёй хаты ў вёсцы Навасёлкі-1.**




Знак, нядаўна ўсталяваны на гары, паведамляе, што гарадзішча – помнік прыроды 4-7 стагоддзяў.

У гэтым годзе снег сышоў рана, і я выйшаў да гары пацікавіцца, ці выраслі ўжо пралескі. А яны, як правіла, на гарадзішчы з'яўляюцца найперш і ў вялікай колькасці.

На жаль, пралесак не было, але ля стогадовых акопаў заўважыў устаноўлены памятны знак. Надпіс на ім сведчыў, што гэта гара – гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку 4-6 стагоддзяў. Я папрасіў свайго брата Чэслава зняць гэты знак на смартфон і зрабіць здымак.

### Легенда пра гарадзішча

Знешне гарадзішча, калі не ведаць пра яго, нічым асабліва не вылучаецца на мясцовасці. Яно месціцца непадалёк ад асфальтавай дарогі Дубравы – Гарадок. Але ўсе мясцовыя ведаюць, што гэта толькі ўчастак больш доўгай дарогі. Бо раней быў яе працяг на ўсходзе да Заслаўя, а на паўночным захадзе – ад Гарадка да Крэва і Вільні.

Абрывістасць і крутізна гары ад дарогі нябачная з-за парослага хмызняку. Ды і па вышыні гарадзішча недзе каля 280 метраў. А ў ваколіцах ёсць узгоркі і вышэйшыя – 292-297 метраў. Узгоркаў Мінскага ўзвышша тут многа, а гарадзішча адно. І ў гэтыя адносна не вельмі людныя мясцы прыцягвала падзеі і людзі.

Сярод мясцовых жыхароў ходзіць легенда, што некалі ўнутр гары праваліўся касцёл. Узбіралася да храма адна жанчына і зачапілася за карані дрэў. Чартыхнулася, як гэта бывае. А такога ні ў якім разе нельга было рабіць у гэты час і ў гэтым месцы. І адразу пасля яе слоў храм знік, праваліўся ўнутр гары.

Гэта легенда, хаця храм і мог існаваць некалі паблізу. Непадалёк жа знаходзіцца старыя ўніяцкія могілкі, знішчаныя варварамі ў 70-я гады мінулага стагоддзя. Можа, там былі пахаваныя ваяры шведскай і французскай войнаў.

### Падзеі, якія разгортваліся каля гары

У час вайны 1914–1918 гадоў тут стварацца запасны абарончы ўмацаваньны раён. Пасля заканчэння вайны 1941–1945 гадоў на вяршыні гары праходзяць манеўры. А паміж войнамі польскія жаўнеры з пагранатрада Дубравы ля падножжа гары практыкаваліся ў стральбе. Тут было стрэльбішча. Стралялі з акопа ад дарогі. У той жа час тут шукалі напалеонаўскія скарбы. А для нас, хлапчукоў, у дзяцінстве было прэстыжным з'ехаць на лыжах з самой вяршыні і пры гэтым устаяць на нагах.

У 1966 годзе тут ладзіўся піянерскі касцёр Дубраўскай СШ. У час дачнага буму ў 1980 гады жыхары сталіцы ўпадабалі гарадзішча для размяшчэння аднаго са сваіх таварыстваў. Але атрымалі адмову ад кіраўніка мясцовага саўгаса **Андрэя Казіміравіча Бурага**. Ён сказаў, што гэта месца гістарычнае. І дачнікам давялося пасяліцца за метраў дзвесце-трыста ад гары

І сапраўды, калі ісці ад назвы гары, то гэта, перш за ўсё, пасяленне людзей у старажытнасці. Мне самому рабіць знаходкі не давялося, хаця і жыву непадалёк. А вось мой старэйшы сябар знайшоў каменныя сякеры і аднёс іх у школьны музей. Магчыма, тут праводзіліся і афіцыйныя раскопкі, але я гэтага не ведаю. Бо каб устанавіць памятны знак, трэба абгрунтаванне.

### Час уключыць гарадзішча ў пералік прыродных помнікаў

У раённай кнізе памяці пра гарадзішча ўзгадваецца, як пра пасяленне тут людзей на ват у больш ранні перыяд штрыхавой керамікі. А гліны вакол гары вялікія запасы. Пра гэта засведчылі геолагі, што даследавалі тут нетры ў 1970-я.

У свой час я распытваў сваіх бацькоў, чаму яны ў 1937 годзе пабудавалі хутар каля гарадзішча на гліністай, цяжкай глебе. Аказалася, з вёскі сяліліся бліжэй да свайго надзелу, які пачынаўся ад Заходняй Бярэзіны і паласой цягнуўся амаль да чыгункі, да вёскі Пазнякі. А хату паставілі на гліне, каб больш урадлівую зямлю выкарыстоўваць пад пасевы.

Надзел бацькоў займаў палову гарадзішча, а другую палову займаў надзел суседа, **Уладзіміра Мацыральніка**, хаця сапраўднае яго прозвішча было Грышэль. Ён быў прымаком. Таму ўсе прызвычаіліся зваць яго па прозвішчы жонкі. І калі зямля маіх бацькоў адносілася да Навасёлак, то суседа – ужо да Дубраў. Такі вось падзел быў.

З вяршыні гарадзішча добра праглядваецца наваколле. Асабліва раней, калі яно не было такім зарослым. За кіламетры два можна разгледзець Дзявочую горку. Вельмі знакамітая гара. Апісаная ва ўсіх даведніках і энцыклапедыях. Іншая назва – Дзевяцігара. Верагодна, помнік язычніцкага культу. З гарой звязанае паданне. Паводле яго, пад гарой пахаваная жывая дзяўчына, а разам з ёй два хлопцы. Яны загінулі ў барацьбе за права стаць мужам гэтай прыгажуні. Але гэтая гара знаходзіцца ўжо ў Валожынскім раёне.

Выклікае здзіўленне, чаму ў пералік прыродных помнікаў ніяк не могуць уключыць гарадзішча, што ў Навасёлках-1. Тут трэба ўсё ж нейкая дакладнасць. Тым больш, і знак ужо ўсталяваны.

**Іосіф ПАЎКАЛАС,**
**вёска Навасёлкі-1**
**Маладзечанскага раёна.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**



Кадр з фільма «Непавінавенне».

# Пяць фактаў пра Налібоцкую пушчу

## Пра падзеі тут у часы Другой сусветнай знялі галівудскі фільм

ВАЛОЖЫН

**Налібоцкая пушча – самы вялікі лес у Беларусі. Яго не маглі кантраляваць акупанты, таму месца стала паратункам для тысяч людзей.**

Але пры гэтым усю значнасць і адметнасць масіву, яго ролю ў палітычнай гісторыі цягам стагоддзяў даследавалі мала. Таму мы падрыхтавалі некалькі фактаў пра пушчу, пра якія вы, магчыма, не ведалі.

### 1. Яе немагчыма кантраляваць чужынцам

Гэта самы вялікі лясны масіў у Беларусі. Плошча ў 140 тысяч гектараў – прыкладна тры Андоры.

Гэта выдатнае месца, каб пабыць з прыродай. Мабільная сувязь ловіць кепска. А гушчар хавае ад знешняга свету. У Другую сусветную вайну тут хавалася каля 20 тысяч чалавек. Кантраляваць тэрыторыю чужынцы так і не змаглі.

Пушча была ідэальным месцам для супраціўленцаў. Тут былі партызаны як савецкія, так і Арміі Краёвай. Лакалізаваўся таксама яўрэйскі атрад братоў Бельскіх. Многія мясцовыя жыхары вёсак каля пушчы мелі сувязь з партызанамі. За гэта значную частку навакольных вёсак спалілі.

### 2. Тут водзяцца зубры

Ад 1994 года зуброў паўторна засялілі прыстасоўвацца да пушчы. У 18 стагоддзі іх знішчылі ў гэтай мясцовасці. Але дзякуючы энтузіястам Валожынскага лясніцтва сюды завезлі першых 15 зуброў з гадавальнікаў. Цяпер тут налічваюць каля сотні галоў зуброў.

Таксама тут жывуць алені, ласі, дзікі, рысі, гарнастаі, глушцы, цецярукі, чорныя буслы.

### 3. Сімвал – зімародак

Гэта птушка здаўна лічыцца сімвалам пушчы. У 2016 годзе менавіта зімародка абралі птушкай-сімвалам Валожынскага раёна.

Гэта прыгожая птушка з сінім і аранжавым пер'ем. Вывы з ёй вы можаце ўбачыць на муралах у Валожынскім раёне.

### 4. Тут ёсць экалагічная сцяжынка

Першая ў краіне інклюзіўная экалагічная сцяжына «Белакорац» з'явілася менавіта тут. Цягам маршруту размешчаныя лаўкі, інтэрактыўныя стэнды, тактыльныя карты, макеты жывёл, альтанкі і біятуалет.

### 5. Пра падзеі ў пушчы знялі галівудскі фільм

Пра яўрэйскі партызанскі атрад братоў Бельскіх у Галівудзе знялі фільм «Непавінавенне» (у рускамоўным пракаце – «Вызов») у 2008 годзе. Галоўную ролю выканаў Дэніэл Крэйг, вядомы па ролі Джэймса Бонда. Фільм распавядае, як пасля масавых распраў над яўрэямі больш за тысячу чалавек выратавалі дзякуючы братам Бельскім.

Карціна заснавана на рэальных падзеях, апісаных у кнізе Нехамы Тэк «Выклік: партызаны Бельскія». Аўтар кнігі нарадзілася ў 1931 годзе ў польскім Любліне. Яна атрымала доктарскую ступень па сацыялогіі ў Калумбійскім універсітэце ЗША, даследавала Халакост. Аўтар кнігі пісала, што неаднаразова звярталася да беларускага боку, каб яе дапусцілі да працы ў архівах або выслалі копіі патрэбных матэрыялаў, але адказу не атрымала. Таму яе праца грунтуецца на ўспамінах удзельнікаў атрада і сваякоў Бельскіх.

Рэжысёрам карціны выступіў **Эдвард Цвык**. Менавіта ён атрымаў «Оскар» у 2009 годзе за працу «Закаханы Шэкспір». Сярод іншых яго вядомых фільмаў – «Легенды восені» 1994 года, «Апошні самурай», «Крывавы алмаз».

Эдвард Цвык так тлумачыць, чаму вырашыў экранізаваць менавіта гэту гісторыю. Звыклы вобраз яўрэяў у час Халакосту – выявы выжыўшых з пустымі вачыма ў паласатай піжаме, горы трупаў ці шкілеты, што чапляюцца за калючы дрот. Гэта вобраз пасіўных бездапаможных ахвяр, якія ў Эдварда выклікаў пачуццё сораму. Таму калі ён у кнізе Нехамы Тэк убачыў зусім іншы вобраз, вырашыў, што яго абавязкова трэба паказаць. Тым больш, што гэта не проста вобраз, а рэальныя людзі.

**Кіно здымалі ў Літве. Некаторыя статысты паходзілі з сямей, якія выратавала група Бельскіх.**

У масоўцы ўдзельнічылі ў тым ліку студэнты Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. У сцэнары ёсць момант, калі супраціўленцы спяваюць народную песню. Спачатку меркавалася, што гэта будзе «Чорны воран», але менавіта студэнты пераўпэўнілі, што яе варта замяніць на «Купалінку».

Крытыка ацаніла фільм сярэдне, прыкладны бал карціны – 58 са 100. Калі амерыканскія крытыкі абмяркоўвалі вобраз герояў у фільме, то польскія ўзрушаліся за гістарычныя неадпаведнасці. У прыватнасці, за спрашчэнне гісторыі. У некаторых кінатэатрах Польшчы фільм забаранілі.

Беларускія аглядальнікі крытыкавалі карціну за адсутнасць беларускай мовы. Некаторыя крытыкі адзначылі, што фільм праігнараваў злачынствы партызан Бельскага супраць мясцовых жыхароў.

Акрамя гэтага фільма, Налібоцкая пушча стала месцам дзеяння рамана Уладзіміра Багамолава «У жніўні 1944-га» Людмілы Уліцкай «Даніэль Штайн, перакладчык».

**Падрыхтавала Эмілія ХВОЯ.**

# Пасол Швецыі Крысціна Юхансан: «Самы смачны абед у жыцці ела ў Налібоцкай пушчы»



Фота Алега КІНДАРА, TUT.BY.

Пасол Швецыі ў Беларусі Крысціна Юхансан.

ВАЛОЖЫН

**Падчас сустрэчы з журналістамі, якая адбылася 30 красавіка ў Мінску, спадарыня пасол закранула тэму развіцця турызму. Яна пазітыўна ацаніла змены, якія адбываюцца ў гэтай сферы ў Беларусі.**

– Крок Беларусі з бязвізавым уездам – спачатку на пяць, пасля на 30 дзён, – гэта геніяльны крок. Сапраўды відаць, як узрастае лічба турыстаў, – заўважыла пасол Юхансан. – Калі вы не Італія і не Іспанія з цёплымі морамі, то прыцягваць турыстаў вельмі складана. Мала сказаць «у нас прыгожая прырода», трэба знайсці нешта ўнікальнае.

**Спадарыня пасол распавяла, што пакуль ездзіла па Беларусі не так шмат, як хацелася. Але пабываць у нашым рэгіёне ўжо паспела.**

– Два разы была ў Налібоцкай пушчы. Там не толькі ўнікальная прырода, але вельмі цікавая гісторыя саміх мясцін і тых людзей, што там жылі і жывуць, – прыгадала Крысціна Юхансан. – Мы цэлы дзень хадзілі па лесе. Там у нас быў самы смачны абед, які я ела ў жыцці: яйкі, бабы, яблыкі, гарбата – усё прыгатаванае на адкрытым агні.

Пасол прыгадала, што гісторыі Беларусі і Швецыі неаднаразова перасякаліся ў мінулым. Неаднаразова падчас паездак па Беларусі ёй даводзілася чуць фразу «вось у нас тут быў старажытны будынак, але пасля шведы яго спалілі».

**– Цяпер мы імкнёмся наладзіць з Беларуссю больш цесныя сувязі па многіх кірунках, – кажа спадарыня Юхансан.**

– Напрыклад, шведскае агенцтва па бяспецы ўжо супрацоўнічае з беларускімі ўладамі ў Гомелі ў пытаннях наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Калі нашыя тэхналогіі ці экспертызы спатрэбяцца падчас будоўлі Астравецкай АЭС, мы будзем рады дапамагчы.

А для беларусаў хутка будзе чарговая магчымасць бліжэй пазнаёміцца з гэтай паўночнай краінай.

**1 чэрвеня ў Мінску пройдзе Дзень Швецыі.**

Гасцей чакае музычная праграма, квэсты і вікторыны, а таксама экадворык з выступленнем экатэатра.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

# Разбівалі яйкі аб галаву, агучвалі, як шуміць матацыкл

## У Маладзечне 1 мая байкеры адкрылі сезон

МАЛАДЗЕЧНА

**Каля 130 матацыклаў стартавала з плошчы Старое Места. Байкеры былі не толькі з Маладзечна, але і рэгіёна – Мядзельшчыны, Вілейкі, Ашмянаў, Астраўца, Смаргоні. Таксама Маладзечна наведалі прадстаўнікі Крупак, Мінска, Брэста, Крычава.**

Узрост мотааматараў – ад 18 да 60 гадоў, стаж ва ўсіх розны. За рулём былі і некалькі дзяўчат.

Калона праехала па Цэнтральнай плошчы, а потым зрабіла стокіламетровы прабег уздоўж Вілейскага вадасховішча.

– Так маштабна адкрываем сезон другі раз. «Тусяць» з намі незалежна ад катэгорыі пасведчання кіроўцы і тыпу матацыкла. Галоўнае, каб чалавек быў добры. Мы заўжды адкрытыя для зносінаў, – расказаў адзін з арганізатараў мерапрыемства матацykліст **Андрэй Рухля**.

### Спявалі «Песеньку маманцяняці»

Пасля мотапрабегу байкеры адправіліся адпачываць у адну з кавярняў Маладзечна. Урачыстасць пачалася з узняцця сцяга свабодных байкераў. Яго падняў 13-гадовы **Марат Дасюкевіч**. Бацька хлопца, Пётр, водзіць байк.

У кавярні спявалі, гутарылі, танцавалі і ладзілі шматлікія конкурсы. Вядоўцы далі байкерам перамешаныя вараныя і сырыя яйкі і прапанавалі разбіць іх аб галаву. Такая «яйкавая рулетка». У выніку ўсе яйкі аказаліся варанымі. Таксама матацыклісты ігралі на імправізаваных інструментах. Да прыкладу, замест барабанных палачак выкарыстоўвалі доўгія паветраныя шарыкі, а падчас ігры спявалі «Песеньку маманцяняці».

**Падчас аднаго з конкурсаў байкеры забівалі цвікі ў бервяно малаткамі, спецыяльна зробленымі для спаборніцтва – яны былі меншыя за звычайныя.**



А вы б змаглі забіць цвік такой прыладай?

А яшчэ канкурсанты агучвалі, як шуміць іх матацыкл.

Паміж конкурсамі ладзілі латарэі – са шлема выцягвалі нумары тых, хто набыў білет на мерапрыемства. Разыгрывалі кубкі і наклейкі. Адзін з удзельнікаў захацеў дапамагчы і выцягнуць нумар пераможцы. І дастаў свой нумар.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

# Байкеры: важная не хуткасць, а дарога

**«РГ» распытала байкераў пра звязаныя з імі стэрэатыпы.**

Байкер з Мядзельшчыны **Сяргей Латушкін** за рулём матацыкла ад 16 гадоў. У 21 год на транспарт японскай вытворчасці і ўжо дзесяць гадоў катаецца на ім. Меў Yamaha YZF600R Thundercat, потым Yamaha R1, цяпер ужо пяты сезон водзіць Yamaha FZ6 S2.

Кажа, звычайна ўдзельнічае ў адкрыцці, прычым не толькі ў Маладзечне: бываў у Паставах, Смаргоні, Астраўцы. А вось у Мядзеле адкрыцця не было. Па словах Сяргея, там вельмі мала матацыклістаў і збірацца асабліва ніхто не хоча.

Маладзечанка **Алена Балабашкіна** пасведчанне кіроўцы аўтамабіля мае ад 2003, але кажа, заўжды падабаліся матацыклы. Таму вырашыла асвоіць і іх. Катэгорыю А атрымала ў 2017 годзе. Водзіць Honda VFR750 1996 года выпуску і прызнаецца, пераважна дзяўчыне на байку дзівяцца матацыклісты-мужчыны.

**Байк – гэта панты ці лад жыцця?**

**Сяргей:** Лад жыцця, прызванне душы і цела, аўто – зусім не тое, калі шчыра.

**Алена:** Для каго як, але для мяне лад жыцця і для нашых хлопцаў з Sun City таксама.

**Ці думаеце, што перашкаджаеце людзям спаць, калі ноччу ганяеце па горадзе?**

**Сяргей:** Я не ганяю па горадзе, для гэтага ёсць трэк і трасы, і хай у мяне штатныя глушыцелі, моцнага шуму яны не ствараюць. Для мяне важная не хуткасць, а дарога.

**Алена:** Люблю за горадам ездзіць, і ў мяне асабіста матацыкл не так гучна «гудзе».

**Байкераў аўтамабілісты часта называюць «камікадзэ». Чаму?**

**Сяргей:** Такі стэрэатып: калі на моцы, лётаеш без памяці і не выконваеш правілы. Таму нас часта ненавідзяць. Хаця гэта тое самае, калі судзяць па адзенні.

**Алена:** Матацыкл – небяспечны транспарт, часта кіроўцы аўто нас не бачаць ці спецыяльна падразаюць, абганяюць, спрабуюць «паказаць перавагу». Вось і бываюць усялякія небяспечныя сітуацыі.



Сяргей Латушкін.




Алена Балабашкіна.

Фота забяспечанае героямі публікацыі.

**Назавіце тры прычыны, чаму матацыкл лепшы за машыну?**

**Сяргей:** Манеўранасць. Свабода і драйв. Матацыкл адключае ўнутраны дыялог.

**Алена:** Чытала неяк, што кіроўцы бачаць дарогу быццам «з акварыума». А матацыклісты – непасрэдныя ўдзельнікі. Матацыкл дае свабоду, быццам маеш крылы. Ну, і адрэналін.

**Ці ўсе байкеры ездзяць на скрут галавы?**

**Сяргей:** Есць з канкрэтным «ручнікам», залежыць ад чалавека, ад мэты, якую пераследуе, калі садзіцца на байк.

**Алена:** Далёка не ўсе, асабліва тыя, што на круізэрах, ездзяць спакойна. У любой супольнасці розныя людзі, так і тут.

**Таццяна КАСЬЯН.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Маленькая круглая часцінка вадкасці.
2. Сум, туга, журба.
3. Майстар, які вырабляе сырамятныя скуры.
4. У спорце – пастава, пры якой цела выгнутае грудзьмі ўверх з апорай на далоні і пяткі.
6. Паводле міфаў, менавіта яны былі першымі людзьмі на Беларусі.
7. У матэматыцы – знак у выглядзе гарызантальнай рыскі.
9. Званне пераможцы ў спартыўных спаборніцтвах, гульнях на першынство, а таксама асоба або каманда, удастоеныя такога звання.
12. Дробны і мяккі, звычайна пахучы парашок, які наносіцца на скуру як гігіенічны і касметычны сродак.
13. Вянок з гэтых кветак упрыгожваў Русалачку з казкі Андэрсена ў дзень яе 15-годдзя.
14. Нябеснае цела, якое па сваёй прыродзе падобнае на Сонца і ўяўляецца чалавеку на начным небе зззяючай кропкай.
17. Імя чарапахі ў казцы пра прыгоды Алісы ў краіне цудаў.
19. Рот звера, рыбы.
21. Каб захаваць своеасаблівасць гэтай еўрапейскай сталіцы, у старых раёнах забаронена ставіць пластыкавыя шклопакеты і спадарожнікавыя талеркі.
22. Расклад карт па пэўных правілах для забавы ці варажбы.
23. Адметная рыса Джаконды ў тым, што іх у яе няма.
24. Напой, асабліва папулярны летам.
25. Выражаная ў грашах вартасць.
27. Сталіца БССР у 1919 годзе.
28. Сцэны драўлянага збудавання, складзеныя з бярвення або бруское, злучаных у чатырохвугольныя вянкі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
3. Вёска ў Ашмянскім раёне Граўжышкаўскага сельсавета. Непадалёк ад яе раскапалі два курганныя могільнікі перыяду Сярэднявечча.
5. Іншасказальнае апавяданне з павучальнай высновай.
8. Злепак, мадэль прадмета ў натуральную велічыню.
10. Таварыш па прафесіі, па рабоце, па вучобе.
11. Палка з папярэчынамі ўверсе і ў сярэдняй частцы, на якую апіраецца рукой бязногі або з хворай нагой чалавек.
14. Не галосны.
15. Сталіца Венгрыі атрымала назву ад двух гарадоў – Буда і Пешта. Падзяляла іх толькі гэта рака.
16. Прымусіць паверыць, упэўніць.
18. Адзін з населеных пунктаў у нашым рэгіёне, які меў магдэбургскае права. Набыў яго ў 1569 годзе.
20. Плецены або драўляны дзіцячы ложак.
26. Старажытны металічны галаўны ўбор воінаў, які ахоўваў галаву ад пашкоджанняў і ўдараў халоднай зброяй.
28. Гэтаму богу прысвячалі алімпійскія гульні ў старажытнай Грэцыі.
29. Герой беларускіх баек, які мае шмат абутку.

## Адказы на крыжаванку з №18

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Тонус. 3. Журавель. 5. Жолуд. 6. Казус. 8. Кагор. 13. Кампот. 15. Чысціня. 16. Табліца. 17. Лойці. 19. Тэлескоп. 22. Ізгой. 24. Кавалерыя. 25. Кладка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Шантаж. 4. Трасца. 5. Жалеза. 7. Сланечнік. 9. Страла. 10. Чорны. 11. Самалёт. 12. Манаполія. 14. Дамейка. 18. Ёлкі. 19. Тара. 20. Алімп. 21. Еўнух. 23. Гектар.



## ● ГАРАСКОП 10-16 МАЯ


**АВЕН.** Калі вам захочацца новых уражанняў, то можна адправіцца ў якую-небудзь турыстычную паездку або яшчэ куды. Толькі не сядзіце ўвесь час у сацыяльных сетках.


**ЦЯЛЕЦ.** Ваш шчаслівы дзень тыдня – пятніца, асабліва 6, 12, 18, 24 і 30 числы. Пятніцай кіруе Венера. Усё, што будзеце рабіць у гэты дзень, будзе мець вялікі эфект.


**БЛІЗНЯТЫ.** Старайцеся рабіць так, каб вашы дзеянні прыносілі карысць не толькі вам, але і навакольным людзям, прытым не толькі блізкім уласна вам, але і грамадскасці ў цэлым. Такія ўчынкі не застануцца незаўважанымі, і дабрыня абавязкова вернецца вам у адказ.


**РАК.** Ваш самы шчаслівы дзень – панядзелак. Ім кіруе эмацыйны і ўражлівы Месяц. А ён кіруе ўсімі сферамі вашага жыцця. Самыя важныя справы вырашайце ў панядзелак.


**ЛЕЎ.** Наша цела старэе, і мы можам гэтаму перашкодзіць. Лепшы спосаб замарудзіць старэнне – атрымліваць асалоду ад жыцця і пражываць кожны дзень напоўніцу.


**ДЗЕВА.** Вы адчуеце прыліў сіл, якім грэх не скарыстацца. А яшчэ ўзрасце ўзровень інтуіцыі, дзякуючы чаму вы хутка знойдзеце вырашэнне любых праблем. А яшчэ вы адкрыеце ў сабе дызайнерскія здольнасці, таму рабіце рамонты, добраўпарадкоўвайце сваё гняздо.


**ШАЛІ.** Калі ў адносінах ужо даўно ёсць напружанасць і канфліктнасць, то гэты месяц стане нейкім пераломным рубяжом, які вызначыць будучае вашай пары. Слухайце голас свайго сэрца, каб не памыліцца з рашэннем.


**СКАРПІЁН.** Вы цвёрда настроеныя палепшыць свой фінансавы стан. Што ж, усё ў вашых руках. Толькі вызначыцеся, якая вам сума патрэбная і ў якія тэрміны вы яе хочаце зарабіць. Бо не маючы вызначаных межаў, вы можаце пераматміцца, і ў выніку атрыманыя грошы пойдуць не на жаданае, а на папраўку ўласнага здароўя.


**СТРАЛЕЦ.** Лёс вам усміхнецца тады, як толькі ў вас з'явяцца сябры і апекуны, якія, ведаючы вашу працавітасць, стараннасць і неверагодную працоўную актыўнасць, запросяць удзельнічаць у развіцці свайго бізнесу.


**КАЗЯРОГ.** Любыя адносіны – гэта кампраміс. І цяпер вы гэта добра адчуеце. Калі вы не разгубіцеся і скарыстаецеся момантам, то будзеце ўзнагароджаныя з лішкам.


**ВАДАЛЕЙ.** Стрыманасць і спакой – неабходныя ўмовы для захавання высокага жыццёвага патэнцыялу і добрага адчування на працягу ўсіх дзён. А нязначныя спрэчкі з блізкімі людзьмі вы з лёгкасцю пераадолееце, калі будзеце гатовыя саступіць хоць трохі.


**РЫБЫ.** Жаданне перамен накрые вас з галавой. Асноўная прычына – застой у асабістым жыцці. Вам не хапае навізны ў развіцці адносін. Каб не ўзніклі непаразуменні, дакажыце сваёй другой палавіне, што гэтыя змяненні неабходныя.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 5 | | | | | | 7 | 1 |
| | | | | 4 | | 8 | | |
| | | | 2 | | 7 | | 6 | 4 |
| | | | | | 2 | | 8 | 3 |
| | | | | 3 | 6 | | 1 | 9 |
| | | 9 | | | 8 | | | 5 |
| 6 | 1 | | 3 | 8 | | | | |
| 5 | | | 7 | | | | 9 | |
| | | | 6 | 2 | | 1 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017


## Чытайце праз тыдзень

- Якую працу прапануюць у гарадах рэгёна? Ці ёсць сярод вакансій такая, дзе можна атрымаць заробак у тысячу рублёў?

## 11 мая, субота

**Вецер:** заходні, 5-7 м/с




Усход 5.15
Захад 21.02
Даўжыня дня 15.47

Усход 10.59
Захад 2.36
Месяц расце

**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература -1,7°С у 1995 годзе
Максімальная тэмпература +28°С у 1996 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 7,1 мм у 2017 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Радуйся вялікім выхадным разам з «Рэгіянальнай газетай»!



### Падпісацца на «РГ» можна:

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 4 рублі 20 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 12 рублёў 50 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымлівайце да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Чым будзеце займацца на вялікіх выхадных?



**Дар'я Шчэрбіч, педагог:**

– Планую выдатна адзначыць дзень свайго нараджэння ў стылі «Стылягі» 50-60-х гадоў. А ў астатнія дні плануем з хлопцам пракаціцца ў бліжэйшыя гарады на байку.



**Дзмітры Абрамовіч, токар:**

– У мяне амаль няма выхадных, толькі 7 і 9 – чырвоныя дні календара, але ўсё роўна далёка не з'ездзіш, у любы момант могуць выклікаць на работу. 7 мая на могілкі паеду, вечарам ці на рыбалку, ці бульбу набіраць у мяшкі. 9 мая, хутчэй за ўсё, у Заброддзе паеду або бульбу буду садзіць.



**Вольга Мештар, выкладчык каледжа:**

– Планую на вялікіх выхадных адпачываць, для мяне адпачынак – паездка ў вёску, прагляд фільмаў, гульні з дзецьмі, прагулкі на свежым паветры. І хачу 9 мая наведаць парад.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**

● ПТУШКА НА ХВАСЦЕ ПРЫНЕСЛА

– Девушка, извините, можете помочь?

– А што такое?

– Автобус последний уехал, надо на маршрутке ехать, а на неё не хватает. Я просто не местный, до знакомых надо добраться.

– Дык а што за маршрутка і колькі не хапае?

– Да Сухарава. У мяне 50 капеек ёсць, яшчэ рубель трэба.

– Ооо, як вы загаварылі прыгожа. Капеек 60 ёсць, трымайце. А вы адкуль?

– З-пад Ашмянаў, з Жупранаў.

– О, то зямляк. Была я там у вас...

– У касцёле?

– І ў касцёле, і на могілках, дзе пахаваны...

– Францішак Багушэвіч?

– Ага. Землякам трэба дапамагаць. Бярыце во рубель.

– Дзякуй вялікі! З Вялікаднем!

– Ідзіце ўжо на сваю маршрутку, а то яшчэ адно слова па-беларуску ці пра Багушэвіча і я вам увесь гаманец аддам!..




Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№19 (1254) 10.05.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 700. Падпісана ў друк у 9.00 7.05.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**




Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.